*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 46(380)** **25 ЛІСТАПАДА 1998 г.**



Сябар Саюза Мастакоў,
Кандыдат філалагічных навук,
Доктар філасофскіх навук,
Член -карэспандэнт Міжнароднай Акадэміі навук "Еўразія"

**Прафесар Мікалай Ігнатавіч КРУКОЎСКІ**

**Да 75-годдзя з дня нараджэння**

Уся шматгадовая дзейнасць Мікалая Ігнатавіча Крукоўскага звязана з роднай Беларуссю.

Ён прайшоў складаны жыццёвы шлях ад партызана Вялікай Айчыннай вайны да прафесара, доктара філасофскіх навук. Мікалай Ігнатавіч — дасведчаны, таленавіты педагог, выдатны навуковец, яго любяць і паважаюць студэнты і калегі.

Мікалай Ігнатавіч Крукоўскі з'яўляецца аўтарам шматлікіх грунтоўных манаграфічных даследванняў, сярод якіх "Логіка прыгажосці", "Асноўныя эстэтычныя катэгорыі (спроба сістэматызацыі)", "Кібернэтыка і законы прыгажосці", "Homo pulcher — чалавек прыгожы" (яе пераклалі ажно ў Кітаі!), "Філасофія культуры (уводзіны ў тэарытычную культуралогію)", а ўсяго ім апублікавана звыш 100 навуковых прац у самых шматлікіх выданнях.

Высокі прафесіяналізм, шырокая эрудыцыя а таксама выдатныя чалавечыя якасці забяспечылі яго плённую дзейнасць у галіне падрыхтоўкі навуковых кадраў (ім падрыхтавана 20 кандыдатаў філасофскіх навук). Але інтарэсы Мікалая Ігнатавіча не абмяжоўваюцца толькі навукай. Ён займаецца мастацтвам, з'яўляецца сябрам Саюза мастакоў Беларусі. Апрача таго, ён — вядомы грамадскі дзеяч (абіраўся старшынёй Беларускай Хрысціянска-дэмакратычнай партыі), зараз сябар БСДГ

Радзіма адзначыла ратны подзвіг Мікалая Ігнатавіча высокімі ўзнагародамі — ордэнам Айчыннай вайны І ступені, медалямі "За отвагу", "Партизан Великой Отечественной войны", "За победу над Германией", медалямі з нагоды юбілеяў перамогі над фашызмам. Яго плённая навуковая і педагагічная дзейнасць адзначана шэрагам Ганаровых грамат.

Вось ужо шмат год ён выкладае эстэтыку, этыку і філасофію па-беларуску.

Сакратарыят ТБМ і рэдакцыя газеты "Наша слова" шчыра віншуюць сп. Крукоўскага з юбілеем і жадаюць моцнага здароўя і натхнёнай працы на карысць нашай Бацькаўшчыны.

## Ахвяраванні на ТБМ

| | | |
|---|---|---|
| Аверын Васіль Іванавіч | Менск | 200 000 |
| Невядомая | Менск | 50 000 |
| Невядомая | Менск | 15 000 |
| Навуменка Л. Е. | Менск | 5 000 |
| Кляшчук Мікалай Мікалаевіч | Менск | 5 000 |
| Ушкоў Сяргей Аляксандравіч | Менск | 5 000 |
| Смалопскі А.А. | Менск | 20 000 |
| Фонд імя П. Крачэўскага | ЗША | 300 дал. |
| Талуць С.Ф. | Гомель | 200 000 |
| Фурсовіч І.В. | Докшыцы | 100 000 |

**Ахвяраванні Бел. згуртавання татар -мусульман "Аль-Кітаб"**

| | |
|---|---|
| 1. Аляксандровіч Ізмаіл | 100 000 |
| 2. Якубоўскі Якуб | 100 000 |
| 3. Асановіч Адам | 20 000 |
| 4. Канапацкі Ібрагім | 100 000 |
| 5. Канапацкая Зарыма | 20 000 |
| 6. Багданаў Іран | 40 000 |
| 7. Канапацкі Захар | 40 000 |
| 8. Туфкрэа Разалія | 50 000 |
| 9. Туфкрэа Анжэліна | 50 000 |

## Паседжанне Сакратарыята ТБМ

16 лістапада 1998 году адбылося паседжанне Сакратарыята ТБМ. На ім было прынята рашэнне аб правядзенні Рэспубліканскай Рады ТБМ 11 снежня 1998 года ў 16.00 у актавай зале Беларускага ліцэя (Кірава, 21) пры БДАКЦ.

Гэтак сама ў ТБМ былі прыняты калектыўны сябра-Маладзёжнае грамадскае аб'яднанне "Хлоя".

### Лідскі рок паварачваецца да беларускасці

20 лістапада адбыўся заключны канцэрт фестывалю "Лідскі рок - 98". На канцэрце ўпершыню пачулася беларуская мова. Цалкам англамоўны да гэтага часу гурт LSD выканаў рок-баладу "Плач па Радзіме" на вершы Ларысы Геніюш. Гэта пачатак, і дай Бог каб увесь Лідскі рок стаў беларускамоўным.

* * *

Аднаўлена дзейнасць Лідскай гарадской рады ТБМ. Старшынёй рады абрана Лілея Сазанавец. Лідская гарадская рада дзейнічае паралельна з Лідскай радай ТБМ, якая ахоплівае горад і раён. Лідская гарадская рада прызнае вяршэнства Лідскае рады ТБМ.

* * *

Лідскія гарадскія ўлады не далі дазволу на правядзенне пікета ў абарону беларускамоўнай адукацыі.

Прычына ў тым, што заяўку падавала Лідская гарадская рада, якая не стаіць на ўліку ў гарвыканкаме.

А не ставяць на ўлік таму, што юрыдычны адрас быў вызначаны ў сямейным інтэрнаце.

* * *

Пінская рада ТБМ падпісала на апошнія два месяцы ўсе школы раёна на газету "Наша слова".

Сакратарыят ТБМ падпісаў 10 школьных бібліятэк Пінскага раёна і 15 бібліятэк Навагрудскага раёна на газету "Наша слова".

* * *

17 лістапада прайшлі выбары у Ленінскай радзе ТБМ г. Менска.

Старшынёй рады абраны Мікола Урбан.

## Прыміце наш смутак

Сакратарыят ТБМ імя Францішка Скарыны, рэдакцыя і рэдкалегія газеты "Наша слова" выказваюць спачуванне дэмакратычным сілам Расеі блізкім і сваякам Галіны Васільеўны Старавойтавай у сувязі з яе злачынным палітычным забойствам.

Адзначаем, што Галіна Старавойтава ўвесь час змагалася за правы паняволеных народаў СССР і Расеі, за іх самавызначэнне, мову і культуру.

Памятаем, што бацька Галіны Старавойтавай быў родам з Беларусі, і яна з вялікай пашанай ставілася да нашага народа, нашай мовы і нашай нацыянальнай самабытнасці, як магла дапамагала дэмакратычным сілам Беларусі.

Смерць Галіны Васільеўны Старавойтавай — вялікая страта для ўсёй цывілізаванай Еўропы.

## РЭХА

Дабрыдзень, шаноўнае спадарства! Так адбылося, што з газетай "Наша слова" сустрэўся толькі сёлета.

На вялікі жаль ранейшыя выданні не чытаў, таму параўноўваць з сённяшнім станам газеты няма магчымасці.

Але сустрэўшы, упершыню, "Наша слова" быў прыемна ўзрушаны і зацікаўлены.

Мне падабаецца, што вы дакладна і слушна дастарчыце да неабыякавага чытача становішча з беларускай мовай на нашай Бацькаўшчыне, што ў іншых газетах ( як дзяржаўных, гэтак і не дзяржаўных) або зусім няма, або трэба шукаць сярод разнастайнае інфармацыі. У вас гэта падаецца на першых балонках.

Таксама спадабаецца, як газета выказвае погляды — годна і беззаганна выступае на абарону беларускага слова

Вельмі спадабаюцца змястоўныя і цікавыя нататкі, артыкулы аб правапісу, аб жыцці слынных сыноў Беларусі. Дарэчы, з захапленнем чытаў артыкул Станіслава Судніка "Аповесць пра словы" у нумары 40 (374). Зараз для мяне газета "Наша слова" жаданае спатканне напрыканцы кожнага тыдня.

Я малады чытач вашае газеты, але ўжо мабыць сталы чалавек ад веку 50 год. Усё жыццё працаваў канструктарам - машынабудаўнікам. У апошнія гады заахвоціўся беларускай мовай. Калі раней чытаў парасейску, зараз цалкам пабеларуску. Вось толькі кніг на сапраўднай беларускай мове замала. Адна крыніца ведаў газета "Наша Ніва" і часопіс "Спадчына". А карцела б болей сустракаць на балонках газет і кніг сапраўднае, а не скалечанае беларускае слова.

Напрыканцы, хачу пажадаць усёй рэдакцыі добрага здароўя і адчування, неабыякавасці да тае справы, што вы робіце, з боку людзей нашае Бацькаўшчыны.

Да пабачэння!

P.S. Ведаю, што Вы збіраеце подпісы за Нацыянальны ўніверсітэт, дзе выкладанне цалкам будзе ісці на нашай мове. Пагэтае, лічыце мой ліст таксама ў падтрымку гэтае мэты. Цалкам на Вашым баку.

*сп.Ермакоў М.С.*
*г.Гомель,*

## *Беларускія СМІ пра беларускую мову*

*Агляд і каментары Язэпа Палубяткі*

Эх спадары — панове, нам бы, беларусам, такога "беларусізатара" ! Дзе яны, праваслаўныя святары з адчуваннем нацыянальнай свядомасці? А сёння прыйшоў час паўтарыць духоўны подзвіг ксенза Антонія: сціпло стаць у абарону беларушчыны. Палякі адстаялі сваю мову і культуру, і нацыянальную годнасць, развіваюць на Гарадзеншчыне школьніцтва. Руская супольнасць хаця і трэцяя па ліку, аднак даўно тут гаспадарыць. Беларусы, як заўсёды, так, з боку-прыпёку. Многім з іх нічога не трэба. Толькі б вайны не было ...

**Антон Лабовіч**
**"Народная воля" 11.11.98г.**

* * *

*Нацыянальная беларуская эліта была знішчана фізічна яшчэ ў 30-я (яе месца заступіла савецкая інтэлігенцыя), беларускія школы зачынены, беларуская мова выгнана з афіцыйнага ўжытку і зняважаная — норма пераўтвораная ў сурагат, на якім не можа існаваць нацыянальная літаратура, акрамя савецкай, гістарычная памяць апляваная, гісторыя сфальсіфікаваная. Няма ніякага панцыя аб нацыянальнай ідэі і нацыянальнай годнасці. Нацыяналістам называюць студэнта, які размаўляе па-беларуску.*

*... Гавораць пра савецкі народ і адміранне беларускай мовы.*

***"Пагоня" 10.11.98г.***
***Зянон Пазьняк***



# Беларуская вучоная — гісторык

Дацэнту кафедры гісторыі і музеязнаўства Беларускага універсітэта культуры кандыдату гістарычных навук Марыі Аркадзеўне Бяспалай 25 лістапада 1998 г. спаўняецца 50 гадоў. Усё жыццё і шлях у навуку характэрны для беларускай інтэлігенткі.

Ураджэнка Заходняга Палесся з Берасцейшчыны яна з маленства знаходзілася ў пагранічным рэгіёне з своеасаблівай рэгіянальнай культурай гэтага вясковага кутка Полісся, са сваім сакавітым дыялектам беларуска-украінскага памежжа. Здольная дзяўчына, схільная да гісторыі, скончыўшы сярэднюю школу, паступіла на гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Марыя Бяспалая паспяхова закончыла ўніверсітэт і працягвала вучобу ў аспірантуры. Яе зацікавіла гісторыя Нямеччыны. Веданне нямецкай мовы дапамагала М. А. Бяспалай у распрацоўцы цікавай тэмы, якую яна абрала для сваёй кандыдацкай дысертацыі — "Роля левых у антываеннай барацьбе нямецкай рэвалюцыйнай моладзі (1914 - 1918 гг.)". Дысертацыя была абаронена ў БДУ у 1978 годзе. Марыя Аркадзьеўна Бяспалая працавала вучоным сакратаром Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, набыўшы кваліфікацыю дасведчанага музейнага работніка. 20 гадоў таму назад М.А. Бяспалая прыйшла ў тагачасны Менскі інстытут культуры, дзе спачатку працавала старшай выкладчыцай, а пасля дацэнтам. У інстытуце культуры (цяпер — Беларускі універсітэт культуры), побач са сваімі абавязкамі выкладчыка, яна працуе і вучоным сакратаром, вядзе курсы сусветнай гісторыі, сусветнай гісторыі новага часу і гісторыі Беларусі. Марыя Аркадзеўна — адна з самых аўтарытэтных выкладчыц Беларускага універсітэта культуры, якую паважаюць прафесары і выкладчыкі і любяць студэнты. Яна мае шмат апублікаваных навуковых і метадычных прац, з'яўляецца ўдзельніцай міжнародных навуковых канферэнцый. Марыя Аркадзеўна Бяспалая адной з першых ва ўніверсітэце, разам з іншымі выкладчыкамі кафедры, пачала чытаць лекцыі і па гісторыі Беларусі, і па сусветнай гісторыі на беларускай мове, яшчэ да абвяшчэння незалежнасці Рэспублікі Беларусь.

Марыя Аркадзеўна Бяспалая падрыхтавала да друку кнігу па гісторыі беларускай вёскі ў 20-х гадах, у якой нетрадыцыйна, па новаму разглядзела складаныя лёсы беларускага сялянства ў БССР. Яна збіраецца абараніць доктарскую дысертацыю на гэтую тэму.

Марыя Аркадзеўна Бяспалая спалучае якасці прывабнай жанчыны, маці сямейства, адданай дачкі, строгай і справядлівай у дачыненні да студэнтаў выкладчыцы, добрай і надзейнай калегі, якая заўсёды прыдзе на дапамогу, патрыёткі Беларусі.

У дзень юбілею ўсе яе супрацоўнікі і сябры жадаюць ёй добрага здароўя, плённай навуковай і выкладчыцкай працы, шчасця ёй і яе сям'і і ўсяго самага найлепшага.

***Анатоль Грыцкевіч, доктар гістарычных навук, прафесар, загадчык кафедры гісторыі і музеязнаўства Беларускага універсітэта культуры.***

*14 лістапада 1998 года.*

# Глыбокае на старых паштоўках

Пад такой назвай у Менску выйшла кніга вядомага глыбоцкага краязнаўца Уладзіміра Скрабатуна. Аўтар сабраў 60 паштовак з выявамі Глыбокага і на 136 старонках кнігі падаў іх чытачу. Кніга выйшла накладам усяго ў 100 асобнікаў на добрай крэйдаванай паперы, і адразу з моманту выхаду стала бібліяграфічнай рэдкасцю, бо аматараў гісторыі нашмат больш і невядома ці можна дастаць гэтую кнігу нават у Глыбокім




# ЗВАРОТ ДА СУПОЛАК БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯСПАРЫ Ў РАСЕІ

## ( у сувязі з прапановаю правядзення "З'езду беларусаў Расеі ў Башкортастане")

**1. Падзеі апошняга часу або гісторыя пытання.**

Прайшло каля года пасля Другога З'езду Беларусаў Свету, на якім абсалютная большасць беларускіх суполак Дыяспары падтрымала арыентацыю, скіраваную на нацыянальнае адраджэнне, дэмакратызацыю Беларусі і захаванне яе Незалежнасці.

Вельмі малая частка дэлегатаў: Ян Сычэўскі з БКГТ Польшчы, Ганна Лапацева з Прыднястроўя, Самуйленка з Харкава — на сустрэчах ва ўрадавых структурах і на тэлебачанні дазволілі сабе выказацца ў адрас З'езду. У газеце "Звязда" за 30 ліпеня 1997 года і "Голас Радзімы" за 7 жніўня 1997 года быў змешчаны ананімны правакацыйны "Зварот" ад імя беларусаў Прыднястроўя, Усходняй Украіны і Кыргызстана на адрасу Прэзідэнта РБ з прапановаю стварыць новую грамадскую арганізацыю - так званае "сапраўды народнае Сусветнае таварыства беларусаў" узамен ЗБС "Бацькаўшчына". У "Звароце" што ні слова то хлусня. Хто даў аўтарам права звяртацца ад імя беларусаў замежжа? Ад імя якога народа ва ўмовах акупаванай Беларусі звяртаюцца "невядомыя" аўтары? Адказ просты - падрыхтавалі "Зварот" адпаведныя структуры, а прыладамі выступілі танныя асобы, што чакаюць ад'едкаў за смуродную справу. Аўтараў "Звароту" не цікавіць стан беларускай мовы і культуры, татальнае знішчэнне акупантамі беларускамоўных школ і выданняў, правы чалавека на Беларусі, праследы патрыётаў і іншае. Для іх галоўнае аднаўленне іх Імперыі і барацьба з НАТО, ну і зразумела падтрымка іхняга (прыднястроўска-кыргызстанскага) Лукашэнкі, яны не адчуваюць, што ад іх аб'яднання "славянаў" моцна тхае чарговым азіяцкім нашэсцем.

Безумоўна "Зварот" настолькі абразіў беларусаў, у тым ліку дэлегатаў З'езду, што прывёў да публікацыі шэрагу пратэстаў суполак дыяспары, у тым ліку на старонках "Голасу Радзімы".

Але камень быў кінуты недарма. У хуткім часе з'явілася "Аб'яднанне суполак беларусаў на Украіне" (АСБУ), у якім, зразумела, не прынялі ўдзелу вядомыя рэальна дзейныя суполкі Львова і Палтавы. Па прызнанні аднаго са стваральнікаў, у склад АСБУ увайшлі, амаль выключна, новастворыныя расейскамоўныя гурты "беларусаў па паходжанні". Маскоўскі досвед сведчыць, што ўся колькасць сяброў такіх суполак змяшчаецца ў адным фатэлі і, як правіла, яны маюць досвед працы у савецкіх спецслужбах. У Маскве ў 1993 годзе было "створана" і некалькі год "працавала" Аб'яднанне беларусаў Масквы "Бацькаўшчына", у складзе адной асобы — "Старога кадра КГБ СССР" (газета " Московский комсомолец"), эксперта па беларускім і польскім пытаннях палкоўніка Аляксандра Глода. Праўда пазней да яго далучыліся яшчэ тры "інтэрнацыянальныя" асобы - расеец, габрэйка і украінка, менавіта, дзеля барацьбы з беларускімі патрыётамі. Менавіта Аляксандр Глод падтрымаў Лукашэнку на II З'езде ЗБС "Бацькаўшчына", а таксама на "Усебеларускім Сходзе" у 1996 годзе, менавіта з ім мае кантакт і падтрымлівае лукашэнкаўская амбасада ў Маскве. Але маскоўскія беларусы выдатна ведаюць, што Глод - істота апалітычная, без комплексаў - яго цікавяць толькі грошы і асабіста дабрабыт. Сімптаматычна, што ягоны калега з вышэйпрыгаданых Васіль Самуйленка стаў адным з стваральнікаў АСБУ на Украіне, якога таксама цікавіць толькі "камерцыйная мытная дзірка" ў беларуска-ўкраінскай мяжы. У адным з артыкулаў, у газеце "Голас Радзімы" № 10 за 12 сакавіка, адным з аўтараў гэтага Звароту быў ужо выражаны зразумелы сумнеў у тым, што падобнае аб'яднанне на Украіне можа, хоць нейкім чынам, прадстаўляць беларускі культурны рух без удзелу беларускіх суполак. Але, як высветлілася справа на гэтым не скончылася. Дайшла чарга і да расейскіх суполак.

**2. Дзеля якіх мэтаў патрэбны З'езд расейскіх беларусаў у Башкортастане.**

5 лютага ў Менску была склікана пасяджэнне "Савета садзейнічання грамадска-культурнаму таварыству "Радзіма", галоўным пытаннем якога было правядзенне З'езду расейскіх беларусаў ва Уфе. Безумоўна на гэты сход не было запрошанае ЗБС "Бацькаўшчына", але былі запрошаны кіраўнікі асобных суполак, пераважна не з Расеі, у тым ліку сумнавядомая Ганна Лапацева з Прыднястроўя і Васіль Самуйленка з Харкава. Гэтае пытанне абмяркоўвалася па ініцыятыве раней нячутага Рэспубліканскага цэнтра беларусаў Башкортастану (добра што не Чукоткі). У хуткім кіраўнік Віктар Рамановіч, з цяжкасцю, па паперцы, прачытаў на расейскай мове свой заклік, сэнс якога зводзіўся да пастулату: "Мэтаю з'езду павінна быць усталяванне больш цеснага кантакту паміж беларусамі, што жывуць у Расеі, і выпрацоўка АДЗІНАГА ПАДЫХОДУ ў адлюстраванні сучаснага становішча на Беларусі " ("Голас Радзімы" № 8 за 26.02.1998 с.4.).

Першая прапанова запярэчванняў не выклікае. Што да другой, то яна мала сказаць здзіўляе — яна канчаткова сведчыць, што прарасейскія адпаведныя колы на Беларусі імкнуцца ў Расеі зрабіць фармальныя структуры падтрымкі Лукашэнкі, прычым фармальную арганізацыю агульнарасейскага маштабу, якая ў перспектыве магла садзейнічаць палітычным мэтам.

Зразумела чаму справу склікання такога з'езду беларусаў актыўна падтрымлівае Ганна Лапацева з "франтавога і крымінальнага" Прыднястроўя, бо яе мэтай з'яўляецца аб'яднанне яе былое радзімы. У адказ можна толькі пажадаць малдаўскім сябрам як мага хутчэй знішчыць смуродны прыднястроўскі апендыкс і аб'яднаць сваю Радзіму - Малдову.

Менавіта таму дэлегацыяй Маскоўскага Таварыства Беларускай Культуры, якая сама завітала на гэты сход, па дамоўленасці з піцерскімі беларусамі, была выказаная прапанова правесці з'езд на ўмовах нацыянальна-культурнага, непалітычнага аб'яднання. Пры гэтым маскоўскія беларусы бралі на сябе частку выдаткаў, а таксама юрыдычнае афармленне створанага хаўрусу беларусаў, як нацыянальна-культурнай аўтаноміі беларусаў у Расеі.

**3. Нашыя прапановы.**

1. У сувязі з прыняццем у Расеі Закона аб нацыянальна-культурнай аўтаноміі прапануем стварыць Хаўрус Беларусаў Расеі на ўмовах нацыянальна-культурнага непалітычнага аб'яднання, на прынцыпах: беларуская мова-беларуская культура - Беларусь як Радзіма. Пры гэтым Хаўрус Беларусаў Расеі павінен быць юрыдычна афармлены, як нацыянальна-культурная аўтаномія беларусаў у Расеі. Маскоўскія беларусы (ТБК імя Скарыны) бяруць на сябе арганізацыю юрыдычнага афармлення і рэгістрацыі такога Хаўрусу, а таксама частку выдаткаў на прывядзенне гэтага З'езду. Аб'яднанне павінна адбывацца незалежна ад палітычнай ( камуністычнай, нацыяналістычнай, капіталістычнай і г.д.) або рэлігійнай (каталіцкай, праваслаўнай, уніяцкай, атэістычнай і інш.) арыентацыі суполак.

2. Прапануем стварэнне ў Маскве агульнарасейскага Беларускага нацыянальна-культурнага цэнтра, у межах якога праходзіла праца па каардынацыі культурнай і эканамічнай дзейнасці беларускіх суполак у Расеі. Такі бы цэнтр мог бы ўключаць Беларускую бібліятэку, стала дзейную выставу беларускіх мастакоў і скульптараў (магчымы пэўныя камерцыйныя ўмовы або выстава-продаж), канцэртную залу для мастацкіх гуртоў і тэатраў з Беларусі, курсы вывучэння мовы і гісторыі Беларусі, рэдакцыю штотыднёвага беларускага выдання, гатэль для сяброў беларускіх суполак і культурна-асветніцкіх дэлегацый з Беларусі, кавярню з беларускай нацыянальнай кухняй (на чыста камерцыйных умовах) і г.д. Безумоўна такога плану цэнтры маглі паўстаць у Піцеры і іншых месцах Расеі, дзе ёсць рэальна дзейныя суполкі дыяспары.

**4. Абгрунтаванне нашых прапаноў.**

Па-першае беларускі цэнтр Башкортастану ва Уфе з'яўляецца пакуль новастворанай арганізацыяй (безумоўна цікава колькі ўваходзіць рэчаісна ў яго сяброў?) і невядома ці існуе ён, бо дагэтуль ніяк сабе не праявіў на беларускай ніве.

Па-другое, Масква больш дасягальная за Ўфу для большасці беларускіх гуртоў еўрапейскае часткі краіны. У сталіцы Расеі знаходзіцца ўрад, фонды і гропы, і паміж ТБК імя Ф.Скарыны і расейскімі ўладамі ёсць дамоўленнасць па правядзенне гэтае імпрэзы ў прапанаваным непалітычным накірунку.

Па-трэцяе Масква і Санкт-Пецярбург — гэта самыя буйныя культурныя цэнтры Расеі з найбольшай колькасцю беларускага жыхарства ў Расеі; суполкі Масквы і Пецярбурга зарэгістраваныя і дзейнічаюць кожная па дзесяць год, іх культурная, навуковая, выдавецкая і грамадская дзейнасць на полі распаўсюджвання ведаў пра Беларусь і беларусаў вядома па-за межамі Расеі, у Еўропе і Амерыцы (Гл. А. Я. Емельянаў. "Беларускія культурныя згуртаванні" Энцыклапедыя гісторыі Беларусі-Мн., 1993.С.461; Беларускае грамадска-культурнае згуртаванне ў Пецярбургу, Беларуская энцыклапедыя - Мн., 1996, с.395, Е.Е. Шыраеў" Русь Белая, Русь Чорная і Літва ў мапах" 1991 серыя кніг "Скарыніч" А. К.Каўкі і шмат іншых). Гэтыя суполкі маюць сталыя кантакты з Сусветнай Беларускай Дыяспарай.

Мы просім усе беларускія згуртаванні ў Расеі выказацца наконт нашых сумесных прапаноў, а таксама вызначыцца па дачыненню да сяброўства і Статута ЗБС "Бацькаўшчына", у кантэксце спробаў стварэння фармальнай альтэрнатыўнай структуры. Мы ўпэўнены ў тым, што падтрымка таго або іншага палітычнага курсу ўдзельнікамі беларускага грамадска-культурнага руху залежыць ад таго наколькі гэты палітычны курс садзейнічае адраджэнню беларускай культуры і мовы.

Мы перасцярагаем, што антыбеларускім сілам не пападпарадкаваць беларускія суполкі ў Расеі, і пры любым разгортванні падзеяў з'езд беларусаў пройдзе ў Маскве ў бліжэйшы год.

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ !

***Валянцін Грыцкевіч, Генадзь Лех, Старшыня Рады Беларускага Маскоўскага грамадска-культурнага таварыства беларускае культуры ў Санкт-Пецярбургу імя Францішка Скарыны на даручэнні Рады і Сходу ТБК.***

# УСЕ МОВЫ РОЎНЫЯ, А СВАЯ — НАЙДАРАЖЭЙШАЯ.



**Паважаны рэдактар!**

*17 верасня гэтага года "Народная воля" апублікавала артыкул І. Васілеўскага "Народ не хочет разговаривать на этой деревенской, мужицкой мове". Тут аголена, адкрытым тэкстам выказвацца абразлівае стаўленне аўтара (ён беларус) да ягонай і нашай мовы. Рэдакцыя "Народнай волі", друкуючы гэты матэрыял і адказ Алега Трусава, звярнулася да чытачоў з просьбаю выказаць "свае думкі па закранутай праблеме".*

*Я таксама даслаў туды артыкул, і яго змясцілі ў газеце (23.10.1998г), але ў скарочаным і скажоным выглядзе. Хоць я, напрыклад, даказваў, што ўсе развітыя літаратурныя мовы, у тым ліку беларуская і расейская, аднолькава роўныя, але за мяне дапісалі, што расейская мова — "сапраўды багатая", але не адзіная такая ў свеце". Ёсць у артыкуле і іншыя праўкі, а таксама шэраг істотных скарачэнняў, што робіць асобныя выказванні бяздоказнымі ці занадта прымітыўнымі.*

*Думаю, што гэты мой матэрыял (у поўным і нескажоным выглядзе) мог бы зацікавіць чытачоў "Нашага слова".*

Прадоўжым гаворку, распачатую на старонках "Народнай волі" (17.09. 1998). І Васілеўскім і працягнутую А.Трусавым.

Шкада, што першы з гэтых аўтараў, не задумваючыся, занадта вольна абыходзіцца з разнастайнымі фактамі, прыцягваючы іх у якасці аргументаў супраць "аматараў беларускай мовы". Так, ён піша, што ў Беларусі "пражывае, па словах нашага прэзідэнта, 2,5 мільёна рускіх" і што гэта амаль трэць насельніцтва рэспублікі. Апрача таго, дадае І. Васілеўскі, тут жывуць украінцы, палякі, яўрэі і людзі іншых нацыянальнасцяў, і "такім чынам, для больш чым паловы насельніцтва рэспублікі беларуская мова не з'яўляецца роднай". Але гэта, мякка кажучы, не зусім праўда.

Перада мною табліца з вынікамі перапісу насельніцтва Беларусі ў 1989 годзе. Усё насельніцтва тады складала 10 152 000. Беларусы — 7 905 000, рускія — 1 342 000, палякі — 418 000, украінцы — 291 000, яўрэі — 112 000, іншыя — 84 000. Як бачым, на долю беларусаў прыпадае 78 працэнтаў насельніцтва, а на долю ўсіх астатніх — 22 працэнты. Кожнаму зразумела, што гэтыя 22 працэнты далёка не "больш чым паловаа насельніцтва", як сцвярджае І.Васілеўскі.

Дарэмна ён таксама, не будучы мовазнаўцам, бярэцца не за сваю справу: робіць экскурс у лексікалогію, супастаўляе шэсць расейскіх слоў з адпаведнымі беларускімі (***уже — ужо, это — гэта ...***) і прыходзіць да высновы, што амаль аднолькавыя, толькі вымаўляюцца беларусамі "гораздо хуже, чем на русском языке". Працягваючы такія ж параўнанні, напрыклад, расейскага слова ***белый*** з польскім ***бялы***, украінскім ***білий***, чэшскім ***білы***, балгарскім ***бял***, І. Васілеўскі мог бы зрабіць тую ж самую выснову: маўляў, палякі, украінцы, чэхі, балгары сказілі расейскае (першароднае!) слова, каб пасля заяўляць, што і ў іх ёсць нейкая свая мова.

А справа тут не такая простая, як думаецца нашаму паважанаму аўтару. У кожнай з дванаццаці славянскіх моў ёсць каля дзвюх тысяч агульнаславянскіх слоў. Яны склаліся яшчэ ў эпоху агульнаславянскага моўнага адзінства (***вада, рука, брат*** і інш.). Ёсць у гэтых мовах і яшчэ тысячы агульных слоў, запазычаных з іншых, неславянскіх моў (***характар, спорт, аперацыя*** і г.д.). Разам з тым кожная з гэтых моў мае свае дзесяткі тысяч слоў, характэрных толькі для пэўнай з гэтых моў.

Яны складаюць нацыянальную спецыфіку пэўнай мовы, звычайна іх няма ў іншых мовах. Напрыклад, амаль усе словы з наступных радкоў Я.Купалы — уласна беларускія: ***"Час склікаці ўжо грамаду на вялікую нараду, на вялікі сход"***. Палова слоў прыходзіцца на ўласна беларускія ў такіх радках Г.Бураўкіна: ***"У кіраўнічых суровых прамовах бэсціцца зноў беларуская мова: быццам бы наскія словы не здатны выказаць талент і розум выдатны"***.

І.Васілеўскі, як ён сам піша, нарадзіўся і вырас у Беларусі, тут закончыў сярэднюю школу, пасля аж 30 гадоў жыў у Расеі і ўвесь час "тосковал по своей милой и родной Беларуси". Апошнія 18 гадоў жыве ў Салігорску. І гэты беларус, якому пры жыцці ў Расеі "снились почти каждую ночь" родныя мясціны, піша, што беларуская мова на фоне расейскай "выглядит убого и примитивно". Цяжка нават уявіць, каб гэтак абразліва і пагардліва гаварыў пра сваю родную, матчыну мову які-небудзь чэх ці эстонец, грузін або француз.

Але гэта можна вытлумачыць і незайздросным лёсам нашай нацыі. Аж тры стагоддзі нас то варылі ў катле паланізацыі, то смажылі на патэльні русіфікацыі. Беларуская мова перажыла, кажучы словамі паэта, ***"панскія здзекі, чэкісцкія чысткі, рогат імперскі, вырак фашысцкі"***. Усімі сродкамі нам уводзілі ў вушы, што наша мова "хамская, деревенская, мужицкая", убівалі ў галаву, што ёсць "великий, могучий, правдивый и свободный русский язык". Мы завучвалі ў школе словы Пушкіна пра непараўнальную веліч расейскай мовы, якая, "как материал словестности, имеет неоспаримое превосходство перед всеми европейскими". Завучвалі, прымалі гэта за чыстую манету і не задумваліся: а ці ж можна гэтак прыніжаць іншыя мовы? Ні ў аднаго беларускага пісьменніка язык не павярнуўся б сказаць такое. Наш літаратар, журналіст, настаўнік цалкам салідарны з Францішкам Багушэвічам, які пісаў, што беларуская мова такая ж ***"людская і панская, як і французская, альбо нямецкая, альбо і іншая якая"***.

А ці ёсць на свеце вялікія мовы і што ўкладваецца ўпаняцце "вялікая"? Калі пад ім разумець пашыранасць, то самая вялікая ў гэтым сэнсе кітайская мова, бо на ёй гавораць 880 мільёнаў чалавек, затым ідуць англійская (450 млн.), іспанская (266 млн.), хіндзі (182 млн.), руская (160млн.). Усе сучасныя развітыя літаратурныя мовы свету, і беларуская ў тым ліку, аднолькава роўныя, і няма абсалютна ніякіх падстаў вышукваць сярод гэтых роўных моў "раўнейшую". Звернемся да акадэмічнага "Руска-беларускага слоўніка". Тут кожнае расейскае слова перадаецца нашым эквівалентам — уласна беларускім ці запазычаным, з іншых моў. І так у кожнай развітай літаратурнай мове (да недастаткова развітых адносяцца многія мовы былых каланіяльных краін).

Існуе мова як асноўная адзнака нацыі — жыве і народ. Калі ж знікае мова, то знікае і народ, асімілюючыся з іншым народам. Прыгадаем запавет Ф. Багушэвіча: ***"Шмат было такіх народаў, што страцілі нейперш мову сваю... , а потым зусім замёрлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі"***.

І.Васілеўскі ўспамінае, як, перасяліўшыся ў Расею, мусіў перайсці на расейскую мову, "так как в России на белорусском языке никто не разговаривает, а если бы кто и стал это делать, то его посчитали бы за ненормального человека". Вось такая, памяркоўная рэакцыя аўтара на гэту ненармальную з'яву. У Расейскай Федэрацыі і сёння амаль тое самае. Хоць гэта і федэрацыя, куды ўваходзяць не толькі рускія, але і башкіры, татары, удмурты, мардоўцы, комі, тувінцы, якуты, тунгусы, калмыкі і дзесяткі іншых народаў, якія спакон вякоў кампактна пражываюць на сваёй зямлі, але дзяржаўная мова ў Расеі адна — расейская. У нас жа не федэрацыя, а, як засведчана ў Канстытуцыі, унітарная дзяржава. Сама логіка падказвае, што ў такой дзяржаве павінен захоўвацца прыярытэт карэннай нацыі. Але, насуперак гэтаму, у нас дзве дзяржаўныя мовы — беларуская і расейская. Пры гэтым, будзем шчырымі, адна з іх на становішчы падчаркі. І ў нас сёння да таго, хто загаворыць па-беларуску ў аўтобусе або на вуліцы, ставяцца вельмі непрыхільна, злосна раяць яму размаўляць на "человеческом языке".

Ёсць у І.Васілеўскага і такое выказванне: "А на какой мове мы будем разговаривать, это другим народам, извините, до лампочки". Напрошваецца адна паралель. 5 жніўня гэтага года на сустрэчы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь з членамі Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў, як падаецца ў нядаўна апублікаванай стэнаграме, А.Р. Лукашэнка сказаў: "А для сапраўднага генія, таленту — на якой мове пісаць — не мае рашаючага значэння". Адзін з членаў Рады асмеліўся запярэчыць: "Сапраўдны геній — толькі на роднай мове".

Наша мова перажывае сёння надзвычай цяжкі час. Застаецца толькі спадзявацца на лепшую будучыню. А пакуль што прыходзіць на памяць занатаваныя ў зборніках беларускіх прыказак і прымавак такія горкія афарызмы: ***"І ў сваёй хаце не вольна", "Прыйшлі ў нашу хату і б'юць нашага тату"***. І яшчэ: ***"Б'юць і плакаць не даюць"***. Або словы С.Ясеніна: ***"В своей стране я словно иностранец"***.

*Іван ЛЕПЕШАЎ,*
*прафесар*
*Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы.*



**Павел Сцяцко,**
*доктар філалагічных навук, прафесар, старшыня Гарадзенскай абласной рады ТБМ імя Францішка Скарыны*

# Трымацца натуральных формаў

**ВЫПУСЦІЦЬ, ПРАПУСЦІЦЬ (ЗРУЧНЫ МОМАНТ, МАЖЛІВАСЦЬ ...) — А НЕ УПУСЦІЦЬ**

***Землякі, вядома, не упусцілі магчымасці распавядаць пра сваё жыццё-быццё. Усё больш скардзіліся на яго.*** (Літаратура і мастацтва. 1997. 28 лістапада, с.4).

Прачытаўшы такое — ***не ўпусцілі магчымасці***, — адразу адчуваеш ненатуральнасць тут слова ***ўпусціць***. У беларускай мове дзеясловы з прыстаўкаю ***у-***, адэкватнаю расейскамоўнай, не маюць пашырэння. Не падае такога слова — ***упусціць*** — "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С Некрашэвіча. Няма яго ў слоўніках В. Ластоўскага, І.Насовіча, Я.Станкевіча.

У першым акадэмічным "Русско-белорусском словаре" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П. Глебкі, выдадзеным у 1953 годзе ў Маскве, рас. ***упустить*** дакладна адпавядаюць беларускія іншапрыстаўкавыя дзеясловы ***выпусціць і прапусціць***: ***"Упустить удобный момент — прапусціць зручны момант; упустить возможность — прапусціць магчымасць; упустить из вида — выпусціць з-пад увагі"*** (С.720). А аддзеяслоўны назоўнік ***упущение*** мае іншакаранёвыя эквіваленты: ***недагляд, хіба, недабачнасць***.

Гэты слоўнікавы артыкул амаль без зменаў паўтарылі ўсе наступныя перавыданні слоўніка — двухтомавы "Русско-белорусский словарь" 1982 года пад рэдакцыяй К.Крапівы (Т.2.С.535) і трохтомавыя 1993 і 1994 гг. (Т.3.С.622). Праўда, па вядомых прычынах побач з згаданымі беларускімі адпаведнікамі ***выпусціць і прапусціць*** падаецца ( і на першым месцы) і ўсесаюзнае ***упусціць***. Але штучнасць яго ў беларускай мове відаць не толькі з таго, што яно не выкарыстоўваецца ў згаданых ілюстрацыях, але і з таго, што вытворныя словы не маюць гэтага ***упусціць*** як утваральнай базы, а толькі ***выпусціць / выпускаць***. У слоўнікавым артыкуле чытаем: ***"Упустить сов. упусціць, выпусціць, мног. павыпускаць"***. А не ***"паўпусціць"***.

Дзеяслоў ***упусціць*** у беларускай мове мае натуральныя значэнні, адэкватныя расейскамоўным з прыстаўкаю ***в-***: ***дазволіць увайсці, уехаць куды-небудзь: упусціць у хату, упусціць у горад (рас. впустить в дом, в город), устанавіць у паглыбленне: упусціць замок у дзверы (рас. вделать, врезать замок)***.

Нажаль, нашыя тлумачальныя і перакладныя слоўнікі перыяду будавання камунізму пераносяць на свае старонкі расейскамоўныя формы з прэфіксам ***у-***: ***упусціць з рук (на месцы — выпусціць з рук), упусціць час, упусціць зручны момант, упушчэнне*** і падобныя штучныя формы. У пятым томе "Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы" (Кніга 2. Мн.,1984. С. 71) бачым і такое: ***"Упусціць з-пад увагі — тое, што і выпусціць з-пад увагі"***.

Ну, як тут не зліцца мовам?!

А між тым тэрміналагічныя слоўнікі, створаныя ў 1992-1994 гг. спецыялістамі, якія не перапісвалі механічна артыкулы з расейскіх слоўнікаў, а дбалі найперш пра дакладнасць зместу і натуральнасць формы беларускіх тэрміналагічных адзінак, не падаюць у беларускай часцы слоўнікаў гэтых лексемаў з прэфіксам ***у-***. Напрыклад, у "Русско-белорусском математическом словаре" пад рэдакцыяй доктара фізматнавук, прафесара Я.Радыны (Мн., 1993) чытаем: ***убывание — спадание, увеличить — павялічыць, удаление вершины — выдаленне вяршыні, удвоение куба — падваенне куба, удлиненный — падоўжаны, уклонение — адхіленне, укороченый — скарочаны, уменшаемое — зменшыва, умножение — множанне, упорядочивание — парадкаванне, управление — кіраванне, упрощение — спрашчэнне, уравнение — раўненне, усеченный — сечаны, ускорение — паскарэнне, устанавливать — вызначаць, наладжваць, высвятляць; устранимый — скасавальны, папраўны; утверждение — сцвярджэнне, уходящая — адыходная*** і пад.

Або ў Руска-беларускім фізічным слоўніку" У. Самайлюковіча, У.Пазняка, А. Сабалеўскага (Мн., 1994): ***убавить — збавіць, паменшыць; увеличение — павялічэнне, увлажнитель — вільготнік, ударять — біць, удвоитель — падвойнік, уклономер — схіламер, улавливание — лаўленне, улавливатель — лоўнік, умножитель — памнажальнік, упакованный — спакаваны, управляемый — кіроўны, упругий — пругкі, уровень — ровень, усечение — сячэнне, устранение — ліквіданне, утечка — працёк, уширение — пашырэнне.***

У гэтым рэчышчы вытрыманы і выдадзены ў гэтым годзе "Расейска-беларускі вайсковы слоўнік" Станіслава Судніка і Сержука Чыслава: ***убитый (в бою) — забіты, уборка — прыбіранне, убыть — выбыць, адбыць; уволеный — звольнены, угрожаемый — пагражальны, уничтожаемый — нішчаны, установка — пастаноўка, утвердить — зацвердзіць, утеря — згуба, утолять (жажду) — спатольваць і пад.***

Як бачым, беларуская мова мае багаты арсенал іншапрэфіксаваных (і бяспрэфіксаваных) лексемаў на месцы расейскамоўных утварэнняў з прыстаўкаю ***у-***. Трэба толькі, як пісаў Якуб Колас, добра абшарыць кішэні свае памяці, пераглядзець слоўнікавыя артыкулы, а не похапкам браць з чужога маўлення, пашыраючы тым самым абсягі моўнае трасянкі.





17 кастрычніка, 1998 года.
Яго Міласьці Спадару Алегу Трусаву
й іх Міласьці усім Сябрам Рэдакцыйнае Рады
газэты "Наша слова"
220095, Менск .
п/с № 34
Беларусь

Паважаныя Спадарыні й Спадары:

Перадусім я шчыра ўдзячная спадару Алегу Трусаву за надсыланьне мне газэты "Наша слова", апошні нумар 38 (372) за 30 верасня 1998г. Дзякую Рэдакцыі за надрукаваньне ў газэце майго ліста, пра які праўду кажучы я зусім ужо была забыла. Ды чытаючы яго ў газэце, мая душа ўзбурылася, разбалелася. Таму вырашыла да вас усіх, паважаныя Спадарыні й Спадары, напісаць.

Вось падумаць, разважыць ужо на халодны розум: Нозьбіт беларускае мовы пішa ў рэдакцыю газэты "Наша слова" — ворган Таварыства Беларускае Мовы — ліст пабеларуску, і просіць надрукаваць яго ў газэце, якая мае на мэце бараніць беларускую мову ад пагібелі, што наносіць ёй русыфікацыя. Да рэчы й ліст нозьбіта беларускае мовы накіраваны супраць русыфікацыі беларускай мовы праводжанай палітыкай, ужо іншага колеру як сталінская, Масква.

І рэдакцыя газэты, што мае на мэце бараніць беларускую мову перад гібельлю-русыфікацыяй, друкуе ліст нозьбіта беларускае мовы, але ўжо ў, зрусіфікаванай сталінскаю рэформай 1933 году, форме ! Выходзіць, што якраз трывожыць ібаліць, што й абаронцы беларускае мовы ўжо так зрусыфікаваныя, што й самі русыфікуюць!

Ніколі ў жыцьці я ня была старонькікам сталінскага рэжыму й ягонай русыфікацыйнай палітыкі. Таму, разам зь іншымі беларусамі, не прызнаю, створанай ім нам на пагібель, наркомаўкі, якая ўжо з 1933 году рыхтуе, і, як відна, вельмі эфэктыўна, гібель беларускай мовы, гібель беларускага народу, гібель Беларусі.

"Супраць цячэньня вады зможа толькі жывое паплысьць" хвалі-ж ракі з сабой нясуць тое, што скончыла жыць.

"Наша Ніва" з усіх сіл намагаецца "супраць цячэньня вады" плысьці й дзіўна, што не памагаюць ёй ніякія іншыя газэты ў Беларусі ...

Жадаю Вам Паважаныя Сябры Рэдакцыйнай Рады, вытрываласьці, сіл асілкавых ды багатых плёнаў у працы, якую Вы праводзіце ў такіх складаных і цяжкіх абставінах. Жыве Беларусь !

**Др. Раіса Жук-Грышкевіч**
**Канада**

# Імя Бацькаўшчыны

Блізу дзесяці гадоў з рознай пэрыядычнасцю наноў паўстае пытанне пра імя нашай Бацькаўшчыны. Пачынаюцца а сціхаюць дыскусіі, у якіх збольшага ідзецца пра адно — ці варта нам далей звацца Беларусяй. Штоpазу дадаюцца новыя абломкі ў высачэзны лоўж знаманых у гэтым пытанні дзідаў. Чаму ж гэтае пытанне так часта актуалізуецца? Адказ палягае на працягах XIX ст. на золі нашага нацыянальна-вызвольнага руху.

У 1891 г. сваёй знаямітай прадмовай Францішак Багушэвіч голасна абвесціў імя БЕЛАРУСЬ дачынна да ўсіх нашых этнічных абсягаў. Ягоныя папярэднікі часцей не выходзілі за рамы рэгіянальнага акрэслення паняткаў "Літва" (цэнтральныя і заходнія прасторы) і "Беларусь" (усходнія землі). Голас Яна Чачота аб крывічох не быў на жаль пачутым, а не справакаваў крывіцкага руху. З прычыны немені агульнанацыянальнага імя нашага Канстанцін Каліноўскі мусіў прамінуць у сваёй "Мужыцкай Праўдзе" якія-нюбя этнічныя найменні. Хаця зусім верагодна, што наш нацыянальны герой разумеў этнічнае адзінства народу, да якога ён звяртаўся праз адозвы, яму ня выпала місія надаць імя нашай краіне. Гэтую місію ўзяў на сябе Ф.Багушэвіч. Ягоны выбар павінен здзіўляць кожнага ўдумлівага сваёй нелагічнасцяй.

Цягам усяго XIX ст. наш узнікалы нацыянальны рух, грунтуючыся на народнай культуры, палітычна меў заходнюю арыентацыю. Расея дзеля сваёй дэспатычнасці дужай прыязі не выклікала. Вось жа, выхаваны ў традыцыі палітычнай арыентацыі на Захад, Ф.Багушэвіч выбраў для краіны імя, якое знакава было зарыентавана на Ўсход. Так заклалася ці не галоўная супярэчнасць беларускага нацыянальнага руху. Падкупіўшы Багушэвічава "адкрыццё", новае пакаленне беларускіх дзеячоў (А. ды І. Луцкевічы, В.Іваноўскі ды інш.) будавала свае палітычныя канцэпты на заходняга кшталту каштоўнасцях ды ідэях. Толькі наўрад ці імі ўлічвалася небяспека "таямнічага ўздзеяння" кораня РУСЬ на свядомасць паспалітых людзей, неабцяжарных гістарычнымі ведамі.

Гэтую небяспеку зразумеў найперш Вацлаў Ластоўскі, які прапанаваў пераназваць нашую Бацькаўшчыну ў Крывію.

Адылі ідэалагічнага абгрунтавання крыўскага канцэпту адстала ад палітычнай рэчаіснасці існавання БССР ... Гэта канечне не азначала развязанасці пытання, якое паўставала перад дзеячамі беларускай эміграцыі паслей. У паваенны перыяд (40-я гг.) адбыўся раскол эміграцыі на беларускую а крывіцкую. Ян Станкевіч шырока прапагандаваў імя ВЯЛІКА-ЛІТВА. Збольшага гэтыя плыні прысутнічаюць з той ці іншай выразнасцяй у цяперашняй Беларусі.

Уздымаючы пытанне аб змене імя Бацькаўшчыны, мы так ці інакш імкнемся ўцячы ад РУСІ, ад пастаяннай мусовасці тлумачыць сваю адрознасць ад Расеі і міталягемы "Святая Русь". Уцёкі гэтыя скіраваныя большасцяй на захад, а мы зачаста завёмся Еўропаю. Адылі таксама часта нам не стае ўсведамлення іншасці "нашай Еўропы", раўняючы з Францыяй, Ангельшчынай ці хаця б Італіяй. У звязку з гэтым, прапагандаваная зараз пэўным колам патрыётаў ідэя Сярэдняй Еўропы выглядае на ідэю пазітыўную ды апраўданую. Бадай, што ў кантэксце ідэалогіі Сярэдняй Еўропы — самадастатковай цывілізацыі між Усходам а Захадам — імя БЕЛАРУСЬ страціць вастрыню "Багушэвічавай супярэчнасці". Прагназаванае палітолагамі ўтварэнне на ўсходзе шэрагу незалежных дзяржаў павінна зыграць дадатную ролю ў гэтым працэсе. Цяперашнім нацыянальным дзеячом ёсць глеба для развагаў. У XXI ст. наша Бацькаўшчына ступае як БЕЛАРУСЬ.

***Сяргей Балахонаў.***

# "Мне засталася спадчына..."

Мне амаль 50 гадоў. Я добра помню сваё дзяцінства. У той час мае бацькі ніколі не гаварылі па-расейску. Ужо ў 90-х гадах мой бацька пачаў карыстацца "трасянкай". А маці наогул, ніколі не ведала замежнай мовы ўсходняй краіны. Сёння ж многія словы могуць паказацца дзіўнымі і старамоднымі архаізмамі. Напрыклад: Лепля, а не Лепель, Полацак, а не Полацк, Луком'е, а не Лукомль і г.д. Стары сусед Юзік інструмент заўсёды называў "рыштункам". Выспа, затока, вандзэлак — словы з майго дзяцінства. Дык вось, праводзячы параўнанні, я прыйшоў да высновы, што гаворка маіх бацькоў — гэта народная мова " тарашкевіца". Я лічу, што гэта мова нашых дзядоў, прадзедаў, нашых продкаў, якая значна адрозніваецца ад расейскай, як украінская, польская, чэшская, славацкая. Граматыка "тарашкевіцы" створана Б. Тарашкевічам у пачатку 20-х на мясцовай беларускай аснове. Гэтай мовай карысталіся класікі беларускай літаратуры Я. Купала, Я.Колас, М. Багдановіч, М.Гарэцкі і іншыя. Каб пераканацца ў гэтым я прапаную прачытаць факсімільнае выданне зборніка вершаў М.Багдановіча "Вянок". Я лічу, што наша родная мова прыгожая, як і любая іншая. Яна, проста не можа быць непрыгожай. Яе не прыдумалі ні Купала, ні Шушкевіч, ні Пазьняк. Беларуская мова стваралася ўсім народам нашага краю сотнямі гадоў шляхам жорсткага адбору, адкідваючы непрыгожае і выбіраючы самае лепшае. Дык чым-жа "правінілася" "тарашкевіца"? Чаму ж , яе спачатку "зрэфармавалі?" у 1933 г. , а сёлета наогул, забараняецца? Я маю на увазе судовы працэс рэдакцыі газеты"Наша Ніва".

Беларуская мова напачатку 20-х, адрозніваецца ад сваёй малодшай сястры 1933 года не толькі правапісам. "Тарашкевіца" мае сваё вымаўленне, свой лексікон. Аднойчы, на творчай вечарыне С. Грахоўскага я слухаў яго вершы і пераклады. Сяргей Іванавіч прачытаў яшчэ тры вершы, усе словы якія зусім не падобныя на расейскія. "Наркомаўка" 1933г. — гэта зрусіфікаваны варыянт, афіцыйна ўзаконеная "трасянка". Я лічу, што адметнасць, непадобнасць на расейскую — галоўная "віна"? "тарашкевіцы". Беларуская мова стала ахвяраю імперскіх амбіцый Расеі. "Наркомаўка" 1933г. — гэта аднаўленне русіфікацыі, яе новы віток. Зусім проста разгадаць яе схему. Спачатку скажуць, што наша мова вельмі падобна на расейскую, потым назавуць яе рускім "наречием" і закончаць версіяй, што "ніякай беларускай мовы няма (выдумкі нацыяналістаў), ніякіх беларусаў няма, Беларусь — гэта, проста геаграфічная назва, частка Расеі. Няма мовы — няма народу. Няма народу — няма і краіны. Дзе гучыць расейская мова — там Расея". Вось так нам навязваюць сваю волю, свае погляды, сваю уладу. З гэтага вынікае, што калі Беларусь-частка Расеі, тады беларусы будуць плаціць Маскве каланіяльны падатак, нашы хлопцы будуць абараняць імперскія амбіцыі Крамля, наша тэрыторыя стане жывым шчытом у стратэгічных планах маскоўскіх ястрабаў. Вынішча-ючы нашу культурную спадчыну, маскоўскія каланізатары разбураюць асновы нашай дзяржаўнасці, без якой немагчыма дасягнуць дабрабыту. Вось дзіўная сувязь паміж Мовай і Каўбасою. Аб гэтым сведчаць ганебныя сфальсіфікаваныя " рэферэндуры?" 1995 і 96 гадоў. Грамадзяне Беларусі парусеілі і пабядніялі. Расейскі шавінізм я не звязваю з расейскім народам. Расейская мова таксама добрая, але ж для мяне чужая. Расейскі шавінізм уласцівы толькі маскоўска - крамлёўскай мафіі. А расіяне іх ахвяры.

Рэдакцыя газеты "Наша Ніва" карыстаецца правапісам да рэформы 1933 г. За гэта яе папярэдзілі. Я хачу выказаць свае меркаванні. "Рэформа" правапісу праводзілася ў 1933 г., калі БССР была пад поўным кантролем Масквы. У такіх умовах яе праводзілі на карысць Савецкага Саюзу, а, калі дакладней, Расеі. Паступова вынішчалася культурная спадчына ўсіх савецкіх народаў, толькі не расейцаў, значыць, СССР — расейская дзяржава. Замена правапісу — гэта прыкладна тое, калі б японцы у 1937 г. прывучылі кітайцаў ставіць свае іерогліфы не па вертыкалі, а па гарызанталі або дыяганалі. Або, напрыклад, каб ізраільцяне прымушалі палесцінцаў цягнуць арабскую вязь не справа налева, а злева направа.

Газета "Наша Ніва" мае кола сваіх чытачоў. Ім падабаецца правапіс да 1933 г. Тады навошта забаронай ушчамляць іх правы. А каму не падабаецца беларускі правапіс, могуць чытаць "трасянку" або парасейску. Тым больш, што амаль усе выданні друкуюцца на расейскай мове.

Я лічу неабходнасць захаваць "тарашкевіцу", як гістарычную рэліквію, духоўную культурную спадчыну, як эталон чысціні сапраўднай, незрусіфікаванай народнай мовы беларусаў. Для гэтага хаця б адна газета павінна друкавацца беларускім правапісам да 1933 г. Галоўнае нікому, нічога не навязваць і не забараняць, даць свабоду выбару.

Вынішчэнне мясцовай культуры каланізатарамі — гэта сусветна-гістарычная практыка, ганебная як і войны. Іспанскія, партугальскія, англійскія, французскія ды іншыя захопнікі імкнуліся перарабіць абарыгенаў на свой капыл. Нават, цяжка адшукаць выключэнні. Мясцовая культурная спадчына замянялася некаторымі дасягненнямі метраполіі. Гэта ж самае рабілі расейскія цары, бальшавіцкія кіраўнікі. У гэтым кірунку яны не прыдумалі нічога новага, ішлі па накатанай каляіне каланізацыі. І не таму, што яны добрыя, або дрэнныя. Яны імкнуліся сваёй выгады. Спачатку ваенным крывавым метадам, а потым — варварскім разбуральным. Мне зразумелы вандалізм Крамля. Яны хацелі Беларусь зрабіць часткаю Расеі. Таму беларускую мову замянялі расейскай. Але ж, найбольшую гадлівасць і брыдоту выклікае канфармізм некаторых чыноўнікаў Беларусі, іх жаданне дагадзіць Маскве. Глыбокае спачуванне выклікаюць абманутыя людзі, якія на "рэферэндуры!" 1995г. прагаласавалі за "раўнапраўны?" статус расейскай мовы. "Даруй ім Божа, бо не ведалі, што рабілі". Вобразна кажучы, яны падсеклі сук, на якім сядзяць. Замена беларускай мовы расейскай узмацняе каланіяльны статус Беларусі, яе залежнасць ад Расеі. Расейскамоўная Беларусь успрымаецца часткаю Расеі. Гэта і патрэбна кіраўнікам Крамля. А калі наша краіна стане Расейскай губерніяй дык беларускі Каравай будуць дзяліць у Маскве. Як падзеляць? Думаю, што сябе не пакрыўдзяць. А вось, толькі, што выдзяляць нам? Падумайце!

Усякія спасылкі на свабоду выбару мовы навучання гучаць, як цынічны фарс. На "рэферэндурах!" людзей пазбавілі права атрымліваць розную, аб'ектыўную, праўдзівую інфармацыю. Магчымасць агітацыі мелі толькі "заедыншчыкі" рознай масці. Вобразна кажучы, абаронцам роднага слова ў рот загналі кляп. А без права атрымліваць інфармацыю не бывае і права прадуманага выбару. Грамадзяне Беларусі былі абмануты. Толькі частка іх распазнала ману.

Недарэчнасць выклікае той факт, што паседжанні суда праводзяцца па-расейску. Нібыта, гэта выязны суд з Расейскай Федэрацыі. Успомнім суды фашыстаў над партызанамі ў гады другой сусветнай вайны. Або суд пад кантролем генерал-губернатара "Северо-Западного края" М.Мураўёва — "вешальніка" над К.Каліноўскім. Гэта не суды, а "расправа". Я лічу, што расейскамоўныя суддзі не маюць ніякага маральнага права судзіць Беларускую Мову. Хто па-расейску гаворыць, той у значнай меры па-расейску і думае. Усякае негатыўнае рашэнне расейскамоўнага суда будзе расцэнена нашчадкамі, як "расправа" над родным словам. Я лічу, што гэты палітычны працэс могуць праводзіць толькі тыя суддзі, якія любяць Беларусь, дасканала валодаюць беларускай мовай, а расейскамоўным я прапанаваў бы узяць самаадвод. Так было б сумленна. Можа лепш заняцца з крымінальнасцю?

Сёння людзі Беларусі задушаны адным клопатам "як выжыць?" Для большасці праблемы мовы — голая абстракцыя. Але ж, гэта не так. Толькі Свая! краіна здольна забяспечыць Дабрабыт, каб Самім! карыстацца вынікам сваёй працы, а не чакаць, што нам выдзеліць "старэйшы" крамлёўскі брат. Толькі свая дзяржаўнасць ствapae для нас Дабрабыт. У сваю чаргу дзяржаўнасць грунтуецца на нацыянальнай ідэі і культурнай спадчыне, у якой мова займае галоўнае месца. Няма мовы — няма народу. Няма народу — няма і краіны, якая стварае для нас Дабрабыт.

Паважаныя суддзі" "Тарашкевіца" — гэта наша гістарычная рэліквія, наша духоўная, культурная спадчына. Не губіце яе. Я прашу адмяніць ганебнае папярэджанне Дзяржкамдруку рэдакцыі газеты "Наша Ніва". Не ушчамляйце правы усіх чытачоў гэтай газеты. Не будзьце герастратамі на Беларусі. Я прашу старанне выслужыцца, дагадзіць замяніць простым чалавечым сумленнем.

P.S. Праз вашу газету хачу выказаць падзяку вадзіцелю тралейбуса № 2310 маршрута № 30 г. Менска. Мілая, прыгожая жанчына прыпынкі аб'яўляе па-беларуску. Мне было вельмі прыемна пачуць роднае слова.

**Галай А. г. Менск**
**чытач "Наша слова".**

**Ад рэдакцыі. Гэты ліст крыху прыпазніўся, але думкі выказаныя ў ім застаюцца актуальнымі, бо канца расейскаму каланіялізму на Беларусі не відно, як не відно прасвету для беларускай мовы.Гэты канец трэба прыбліжаць, а гэты прасвет трэба церабіць.**

# На службе царкве і Беларусі

**Артыкул Алеся Мікалаевіча Белакоза пра святара Жалезняковіча і перапіска яго з Янкам Брылём паводле газеты "Мастоўскі веснік"**

*2.І.93.*

*Дарагі Алесь Мікалаевіч!*

*Учора атрымаў Ваша пісьмо. Дзякую!*

*Днямі адзін мой мінскі знаёмы ездзіў у Беласток, я папрасіў яго пацікавіцца там Віталем Жалезняковічам, пра якога у 1975 годзе гаварыў мне варшаўскі знаёмы, адзін з цывільна-каталіцкіх дзеячоў.*

*Мінчанін мой гаварыў з самім епіскапам Савай, потым атрымаў тэлефон святара Серафіма Жалезняковіча і пагаварыў з ім асабіста. Гэта малодшы брат Віталя і Паўла, ужо васьмідзесяцігадовы архімандрыт, настаяцель Свята-Мікалаеўскага сабора.*

*Пра Віталя Арсенавіча айцец Серафім расказваў тое самае, што напісалі Вы, але сказаў, што Віталь быў вызвалены з лагера ў 1958 годзе, а памёр у 1970-м. У бліжэйшы час у мяне будзе магчымасць удакладніць гэтыя даты, а можа, і сёе-тое яшчэ, і тады я напішу Вам.*

*Такім чынам, мы ведаем пра трох братоў Жалезняковічаў, а дзе ж яшчэ два? Можа, сыны Віталя Арсенавіча ведаюць? Пры нагодзе спытайцеся ў іх, калі ласка, — у мяне гэта не проста так цікавасць: хочацца ведаць пра гэтую незвычайную сям'ю як найбольш. Дарэчы, у Паўла Арсенавіча два сыны, Уладзімір і Віктар, абодва жывуць у Гродне, старэйшы, Валодзя, зрэдку піша мне, віншуе са святамі. Павел жаніўся позна, хлопцы яго маладыя, хутчэй за ўсё, ня шмат ведаюць з сямейнай гісторыі...*

*Вашы нататкі пра Віленскую гімназію і сястру Веру сёння перадам у рэдакцыю "Нашага слова", папрашу, каб яны не марудзілі з публікацыяй.*

*А Вы не хварэйце, — добрага Вам здароўя і светлага настрою!*

*Янка Брыль.*

*27.1.93г.*

*Дарагі Алесь Мікалаевіч!*

*Дзякую за пісьмо, цікавыя матэрыялы і прыязнае стаўленне да мяне. Я заходзіў у "Наша слова", гаварыў з Ялугіным пра прысланае Вамі, і ён згадзіўся са мною, што гэта важна — расказаць, як выхаванцы віленскай беларускай гімназіі не толькі самі выходзілі з яе патрыётамі, але і ўплывам сваім дапамагалі вясковай моладзі родных мясцін у стаўленні нацыянальнай свядомасці. Пісалі Вы пра гэта з душою, як пра перажытае, добра таксама і пра сястру, светла-трагічная постаць яе жыва паўстае з Вашага расказу. Мне толькі думаецца, што расказ пра Веру Мікалаеўну трэба не асобна даваць, а належна ўключыўшы яго ў расказанае Вамі. Ці Вы самі зробіце гэта, дзеля чаго я прышлю Вам (калі трэба) абодва тэксты, ці Вы даверыцеся рэдакцыі, а я аддам рукапіс Ялугіну? Напішыце мне, калі ласка, якое будзе Ваша рашэнне.*

*Напісанае Вамі пра айца Віталя Жалезняковіча збянтэжыла мяне. Я сябраваў з яго малодшым братам Паўлам, пра якога пісаў двойчы — у 1856 годзе (нарыс "Сэрца камуніста", дарэчы, названы так у рэдакцыі, пакуль я хварэў) і ў нашы дні, што ёсць у "Полымі" №12 за мінулы год, у нарысе "Заказ і просьба". Там я пішу, што ў 1975 годзе ў Варшаве адзін з дзеячоў каталіцкага аб'яднання "Пакс" гаварыў мне, што ён добра знаёмы з Біскупам Віталем Жалезняковічам, які працуе ў Беластоку". Пазней я спытаўся у паэта Алеся Барскага, якога Вы, думаю, ведаеце, як беластачаніна, і ён пацвердзіў гэта, толькі з папраўкай: не епіскап айцец Віталь, а архімандрыт. Пісаў пра гэтага патрыёта і мой сябар Уладзімір Калеснік у сваёй кнізе "Лёсам пазнанае" (старонкі 257-259). Апроч нас, сям'ю Жалезняковічаў ведаюць і іншыя. І ніхто з нас не чуў, што а.Віталь быў асуджаны, там больш ажно на 25 гадоў ... Па простай логіцы таго часу, ці ж мог бы яго брат Павел, хоць ён і лічыўся героем рэвалюцыйнага падполля ў былой Заходняй Беларусі, займаць такія пасады - першага сакратара райкома ажно ў трох раёнах, быць членам ЦК КПБ, удзельнічаць ва ўсесаюзных з'ездах, атрымліваць высокія ўзнагароды? .. Ці ж можна было наогул захаваць такое ў таямніцы? .. Вы заінтрыгавалі мяне "часопісам маскоўскай епархіі" — ці не магло тут быць супадзення якога ў прозвішчах розных людзей? ..*

*Добра вядома ў нас на Міншчыне і пра тое, што ўвосені 1939 года браты Віталь і Павел сустракаліся. Ну, а пра яго, айца Віталія, добра ўспамінаюць і сёння. Я з ім не быў знаёмы, нават ніколі не бачыў яго, хоць маё Загора ад Ярэмічаў толькі шэсць кіламетраў! Ён сябраваў з маім сябрам, паэтам Алесем Міцюлём, ад якога я таксама чуў перад вайной і ў гады акупацыі нямала добрага. Словам, Алесь Мікалаевіч, паўтараю: я збянтэжаны тым, што Вы пісалі, і вельмі хацеў бы адпаведна яснасці...*

*Чакаю Вашага адказу наконт таго, што будзем прапанаваць "Нашаму слову", а таксама і трохі больш пра старэйшага Жалезняковіча. Дарэчы летась я быў у Ярэмічах і каля просценька-прыгожай царквы пастаяў каля магілы іхняга бацькі...*

*Вясною 1965 года я з Караткевічам і Барадуліным быў у Шчучыне, выступалі там у школе, дзе беларускую мову і літаратуру вяла ... ці не Зоя Аляксандраўна Глаз, сімпатычная жанчына з адной вёскі з Міхасём Васільком? На сорам мой я забыўся ... А Макоўскі — ці не з вёскі Палужжа каля Карэлічаў?*

*Усяго Вам добрага, паважаны Алесь Мікалаевіч!*

*Янка Брыль.*

* * *

### СВЯТАР — ПАТРЫЁТ

**Жалезняковіч Віталь Арсенавіч** нарадзіўся першага кастрычніка 1900 года ў в. Тульгавічы Рэчыцкага ўезда Менскай губерні ў сям'і святара Арсена Язэпавіча. Маці Алена Рыгораўна з дзяцінства прывучала сыноў да працы. да ўважлівых, дабразычлівых адносін да селяніна.

Патрыятычнае выхаванне дало вынікі. Хлопцу захацелася прысвяціць жыццё свайму народу.

У 1922 годзе малады Віталь скончыў Віленскую духоўную семінарыю.

Здарылася бяда: памёр бацька, пакінуўшы пяцярых сыноў на старэйшага Віталя.

6 жніўня Віталь Арсенавіч быў рукапакладзены ў прасвітара Ярэміцкай царквы Гарадзенскай епархіі.

У 1937 годзе за прапаганду беларускай мовы сярод прыхаджан (тады таксама вялася палітыка на знішчэнне беларускай мовы) айцец Віталь быў пазбаўлены прыходу.

Святара - патрыёта маральна і матэрыяльна падтрымлівалі прыхаджане, грамадскасць Гарадзеншчыны і духавенства ўсёй Заходняй Беларусі.

У 1938 годзе пратаіярэй Жалезняковіч быў прызначаны настаяцелем Гудзеўскай царквы Гарадзенскай епархіі.

Тут айцец Віталь заслужыў вялікую пашану за міласэрнасць, працавітасць, за прыхільнасць да роднага беларускага слова, за спачуванне да прыгнечаных, пакрыўджаных. Вельмі часта выконваў трэбы бясплатна.

А за пахаванне, амаль ніколі не браў платы, але часта дапамагаў сям'і пахаванага значнымі сумамі.

Слава пра "гудзеўскага бацюшку", які дапамагае бедным, гаворыць казанні ў царкве па-беларуску, для якога наша мова — гэта мова ягоных бацькоў і дзяцей, разнеслася па ўсёй Гарадзеншчыне. Сына Змітрука паслаў вучыцца ў Віленскую беларускую гімназію. Айцец Віталь быў пад палітычным наглядам.

Уз'яднанне Беларусі сустрэў з верай, што нарэшце беларускі народ атрымае магчымасць развіваць сваю мову, літаратуру, культуру. Аднак з часам пераканаўся, што спадзяванні гэтыя марныя. У яго забралі частку плябаніі, забаранілі пасвіць карову на калгасным выгане.

У час нямецкай акупацыі патаемна тлумачыў прыхаджанам пра імперскія мэты фашызму, пра неабходнасьць ратавацца ад дэнацыяналізацыі беларусаў, вывучаць родную беларускую мову, літаратуру, гісторыю Беларусі. Сын Змітрук у суседняй з Гудзевічамі вёсцы Вострава адчыніў школу, у якой працаваў бясплатна, вучыў па савецкіх падручніках. У час нямецкай акупацыі партызаны хаваліся ў гумне святара Віталя Жалезняковіча. Яны казалі, што як вернецца савецкая ўлада, то аддзякуе айцу Віталю за ягоную дапамогу партызанам, узнагародзіць Савецкая дзяржава і сына Змітрука Жалезняковіча за тое, што ў час вайны вучыў дзяцей бясплатна, выхоўваў іх беларусамі-патрыётамі. **І бальшавікі аддзякавалі.** 8 траўня 1945 года ён быў арыштаваны супрацоўнікамі МДБ. Яго засудзілі на 10 гадоў заняволення.

У 1947 годзе пратаіярэй Жалезняковіч прызначаецца настаяцелем Нікольскай царквы у г. Ваўкавыску і благачынным Ваўкавыскай і Поразаўскай акругаў.

У 1951 годзе органы МДБ арыштавалі айца Віталя, і засудзілі яго да 25 - гадовага зняволення ў сталінскіх лагерах смерці.

На допытах трымаўся мужна. Аднак пасля двухтыднёвых допытаў без сну зэк Віталь Жалезьняковіч сказаў:

— Пішыце, што хочаце. Падпішу.

У зняволенні зэк Жалезняковіч будаваў Менскі трактарны завод, карчаваў лес у Марыйскай аўтаномнай вобласці. Дапамагаў слабым у працы. Са зняволенымі дзяліўся апошняй пайкай хлеба. Усіх падтрымліваў маральна.

Пасля вызвалення ў 1954 годзе яму забаронена было заставацца ў Беларусі.

З 15 снежня 1954 года пратаіярэй Жалезняковіч быў настаяцелем пакроўскага храма ў г.Апочка Пскоўскай вобласці.

У Апочцы а.Віталь быў узнагароджаны ордэнам святога князя Уладзіміра трэцяй ступені.

Памёр святар Жалезняковіч 5 кастрычніка 1974 года.

Пахаваны на могільніку г. Апочка побач з магілай жонкі Аксені.

Памяць пра Святара, Патрыёта, Чалавека **Віталя Жалезняковіча** назаўсёды захаваецца ў Тульгавічах, Ярэмічах, Гудзевічах, Ваўкавыску, Апочцы.

Няхай дабрыня і патрыятызм айца Віталя дапамогуць нам мужна вытрымаць усе цяжкасці жыцця.

Настаўнік Гудзеўскай СШ
Алесь Белакоз
8 верасня 1989 г.

Выкарыстаныя крыніцы:

1.Часопіс Маскоўскай епархіі нумар 10 за 1974 год.

2.Успаміны а.Віталя, сяброў, свае уласныя, суседзяў.

# ЦІ КІРЫЛА І МЯФОДЗІ ДАПАМАГАЮЦЬ МАСКВЕ?

Я ня меў магчымасці прачытаць артыкул спадара Анатоля Астапенкі "Беларускаму набажэнству быць!" у нумары 12 (346) "Нашага слова" за 1 красавіка 1998 году і таму не магу над ім дыскутаваць.

Але атрымаў я частку газеты "Наша слова" за 30 верасня гэтага года, дзе быў змешчаны артыкул спадарыні Раісы Жук-Грышкевіч (Канада)пад загалоўкам — "Дзеля чаго Астапенка хваліць царкоўна-славянскую мову?" У ім я чытаю: " ... царкоўна-славянская мова ёсць адной з прыладаў русіфікацыі іншых славянскіх народаў, услаўляе царкоўна-славянскую мову ды Кірылу і Мяфодзія і заклікае ставіць ім у Беларусі манументы! Чаму? А таму, што яны дапамагаюць Маскве загарнуць усіх славян пад свае маскоўскія крылы, каб, як Каліноўскі кажа, перакруціць іх на маскалёў".

Цяжка пагадзіцца з такімі цверджаннямі паважанай Раісы. Выглядае, быццам, Кірыла і Мяфодзі з'яўляюцца ворагамі шматлікіх славян і сярод іх, беларусаў, а прыяцелямі толькі Масквы. Не трэба забываць, што Кірыла і Мяфодзі жылі ў палове IX стагоддзя. У час іхняй дзейнасці аб Маскве нічога не было чуваць, яе яшчэ не было. І сёння рабіць гэтых заслужаных салунскіх братоў, як прыладу маскоўскай палітыкі, выглядае непаважна.

Згадаем тут коратка аб славянах. З'явіліся яны на палітычным гарызонце неспадзявана і да таго ж, як вялікі і аформлены народ, які насіў у сабе больш падабенства, як розніцы. Аб славянах пачалі пісаць грэцкія гісторыкі ў XI стагоддзі, калі яны ўвайшлі на тэрыторыю Візантыі, а пасля аб славянах пісалі нямецкія хранікары. Супольнасць славян на Балканах прадстаўляла збройную сілу і таму візантыйская адміністрацыя змушана была дазволіць ім асесці на сваёй тэрыторыі. Так што пачынаючы ад УІ да УІІІ стагоддзяў экспансія славян расцягвалася ад Днястра да Лабы і ад Ладагі да Пелапанесу.

Як ужо згадвалася, аб славянах пісалі візантыйцы і немцы, але пісалі яны таму, бо славяне, хоць былі вялікім народам, але не мелі свайго пісьма. Прыйшло яно да іх разам з хрысціянствам у палове IX стагоддзя. Вялікую работу ў гэтым праявіў Канстанцін (прымаючы духоўны сан, прыняў імя Кірылы). Ён улажыў славянскі алфавіт т.зв. глаголіцу, якую пасля пачалі называць кірыліцай. Вялікай дапамогай у рабоце Кірылы служыў ягоны брат Мяфодзі. Сваё жыццё яны прысвяцілі хрысціянскай царкве.

На просьбу Вялікамараўскага князя Расціслава (846-870), яны былі пасланы ў Маравію, каб там пашырыць хрысціянскую веру на зразумелай для народа мове, бо нямецкая мова была для мараўцаў не зразумелай. Гэта было зроблена напачатку 862 года. Але з боку нямецкіх місіянераў, якія працавалі ў Маравіі, прысутнасць грэкаў на Маравах была непажаданай. Аднак салунскія браты мелі падтрымку мясцовага насельніцтва і сваю работу праводзілі з поспехам. Неспадзявана памёр у 869 годзе Кірыла, але яго брат, Мяфодзі, прадаўжаў далей сваю работу на славянскай мове. За гэта быў ён увязнены немцамі, тры гады прасядзеў у турме і пасля вызвалення шмат меў непрыемнасцяў, прыкрасцяў, але стойка выконваў свае пастырскія абавязкі архіепіскапа нягледзячы на перашкоды рымскіх папаў. Памёр Мяфодзі ў 885 годзе і быў урачыста пахаваны.

Пасля смерці Мяфодзія нямецкае духавенства дабілася ад папы Сцяпана УІ, забараніць служыць багаслужбы на славянскай мове як варварскай. І папа гэта зрабіў назваўшы славянскую мову "Богу нямілай". Мала таго, што забаронена было адпраўляць набажэнствы па-славянску, дык адных святароў вучняў Кірылы і Мяфодзія, пасадзілі ў турму, а другіх прадавалі ў рабства. Аб апошніх даведаўся візантыйскі пасол і выкупіў іх. Пасля гэтыя святары залажылі на Балканах цэнтр свае хрысціянскай навукі. Асабліва Балгарыя сталася культурным цэнтрам царкоўна-славянскай пісьменнасці, якой кніжкі і людзі з часам былі вітаны на Беларусі.

Цяжка паверыць, каб праз пісьменнасць Кірылы і Мяфодзія Масква магла русіфікаваць падбітыя ёю народы. Чаму тады Рымская царква, якая аж да Другога Ватыканскага сабору карысталася лацінай у сваёй багаслужбе, якая мае сходнасць з мовай італьянскай, а папы былі італьянцы, не праявіла італізацыі ў сваім засягу?

Факт быў той, што ў кожнай каталіцкай краіне імша адпраўлялася па лаціне, але святары гаварылі пропаведзі на мове народа і апошнім часам касцельная канцылярыя вялася на мове народа. А Беларусь, якая падпала пад Расею, яе мова была забаронена, назоў Беларусь замянілі на "Северо-западный край", а ў царкве, па-за багаслужбай на славянскай мове, усё вялося на расейскай мове. Расея слала на Беларусь сваё духавенства, сваіх чыноўнікаў, закладала свае школы і так русіфікавала беларусаў.

Але ніхто так хутка не русіфікаваў беларусаў як камуністычная сістэма са сваёю дыктатураю і пераследам незалежнай нацыянальнай думкі ўсіх народаў СССР, дзе смяротныя пакаранні іншадумцаў былі з'явай штодзённай. Тут Расейская Праваслаўная Царква, хоць і сталася прыладай палітыкі ўраду, але яна не мела ніякага голасу ані ў царкоўных, ані палітычных справах краіны, а нават сама пацярпела вялікія страты і існавала толькі дзеля прапаганды навонкі. Яе іерархі рабілі ўсё так, як ім казаў савецкі ўрад, а мэтай ураду была русіфікацыя, таму і царква русіфікавала.

Так што русіфікацыя беларусаў і пісьменнасць Кірылы і Мяфодзія не мелі і не маглі мець нічога супольнага. Вінаватыя тут былі беларускія святары ў краі, якія не гаварылі пропаведзяў на мове свайго народа, не вялі свае канцылярыі па-беларуску. Як раней, так і цяпер, адны святары запрадаліся Маскве, а другія — Варшаве і тут бяда.

Далей паважаная Раіса піша: "Аўтар, сябра Таварыства Беларускае Мовы імя Францішка Скарыны ўслаўляе мову Кірылы і Мяфодзія, услаўляе і верна ідзе ўслед за імі, а не за мовай Францішка Скарыны, а не ідзе за запаветамі Францішкі Скарыны, які даў свайму беларускаму народу Біблію ў ягонай роднай мове, каб ён "чытаючы (Біблію) разумеў".

І тут я нічога дрэннага не бачу ў паводзінах сябра **ТБМ**, як толькі ўдзячнасць Кірылу і Мяфодзію за іхнюю дзейнасць і ахвярнасць, аб якой я далёка не ўсё напісаў. Хто-ж як не яны, Кірыла і Мяфодзі, далі славянам пісьменнасць пасля габрэйскай, грэцкай і лацінскай. Яны зрабілі славян народам культуры, прывялі да хрысціянскай веры, якая сталася сцяной на Балканах праз якую ня мог прабіцца іслам у Еўропу. Яны першыя пералажылі царкоўныя кніжкі на славянскую мову.

А што да Францішка Скарыны, дык гэта было ўжо XУІ стагоддзе, але і яму таксама належыць вялікая ўдзячнасць як прадаўжальніку ідэі Кірыла і Мяфодзія. Скарына пералажыў Біблію на беларускую мову, але не пазбег царкоўна-славянскіх слоў Кірылы і Мяфодзія. Усё ж дзякуючы гэтым двум апосталам славянскай пісьменнасці, славянскія народы, а сярод іх і беларускі народ, маюць сваё пісьмо і ім даражаць, хоць не ўсе беларусы. А калі мы маем зняважыць ахвярную дзейнасць святых апосталаў славян Кірылу і Мяфодзія, маем адмовіцца ад іх, тады трэба адмовіцца і ад іхняга алфавіту. Але што гэта дасць?

Яшчэ да гэтага часу стаяць на Беларусі статуі злачынцаў, рукі якіх запэцканы ў крыві мільёнаў нявінных ахвяр, то чаму не паставіць статуі Кірылу і Мяфодзію, якія акрамя дабра, нікому нічога дрэннага не зрабілі за сваё жыццё. Былі гэта людзі вялікай навукі, маралі і этыкі.

***Юры Весялкоўскі.***
***Лондан, 16.X.1998г.***

# Выстава "Беларускі ручнік"

Сёння, бадай, няма ніводнага чалавека, які б не карыстаўся ручніком. Людзі так звыкліся з яго прысутнасцю ў побыце, што проста не ўяўляюць як можна жыць без гэтай рэчы. Гэта гаворыць аб тым, што ручнік, як твор народнага мастацтва, адносіцца да тых прадметаў, якія будуць належаць як мінуламу, так і цяперашняму часам. І сапраўды, колькі стагоддзяў ён існуе, а выкарыстанне яго не спыняецца па сёння.

Аднак цікава было б паглядзець, ведаючы ручнік сучасны, як жа ён выглядаў шмат гадоў таму. Менавіта адной з такіх мэт і служыць адчыненая нядаўна ў Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі Выстава, прысвечаная беларускаму нацыянальнаму ручніку, якая паказвае яго традыцыйную адметнасць, непаўторнасць і арыгінальнасць.

Размешчаная ў прасторнай зале, яна цікава распавядае наведвальнікам аб прыгожым і непаўторным свеце нацыянальнага ручніка. Заходзячы ў яе, першае, што кідаецца ў вочы, гэта незвычайнае, але арыгінальнае экспазіцыйнае афармленне. Супрацоўнікі музея падзялілі выставу на шэсць раздзелаў, кожны з якіх вядзе гаворку аб ручніках пэўнай тэрыторыі беларускага краю: Заходняе Палессе, Цэнтральны рэгіён, Панямонне, Паазер'е, Падняпроў'е, Усходняе Палессе . Ручнікі кожнага з рэгіёнаў размешчаны ў выглядзе вялікага кола, пасярэдзіне якога размясцілася назва тэрыторыі і яе становішча на карце Беларусі. У сярэдзіне залы знаходзяцца традыцыйныя прылады



ткацтва, пры дапамозе якіх выраблялiся прадстаўленыя творы народнага мастацтва, але, канешне, самае цікавае было не гэта, а самыя ручнікі. Выстава дапамагае кожнаму наведвальніку ўбачыць і зразумець адметнае і агульнае, у ручніках кожнай адзначанай мясцовасці беларускай. Сапраўды, калі ўважліва прыгледзецца, то можна заўважыць і тое і другое, хаця больш у ручніках прысутнічае адметнага і непаўторнага. Так, калі ўзяць ручнікі Заходняга Палесся, то можна ўбачыць, што гэты рэгіён падараваў нам старажытны традыцыйны ручнік, што панаваў на гэтай тэрыторыі.

Яго адметнасцямі, бачым, з'яўляецца ўжыванне ўзору "елачкі", упрыгожванні палоскамі чырвонага колеру, аздабленне канцоў ручніка плеценымі ка-рункамі. Трэба вылучыць ручнікі Ляхавіцкага і Лунінецкага раёнаў, як адметныя на гэтай тэрыторыі.

Пойдзем далей па зале і ўбачым, што ручнікі Цэнтральнага рэгіёна нічым, здаецца, не адрозніваюцца ад вышэй названых, але калі добра прыглядзецца, то адзначым на іх прысутнасць аднатыпнага канону, аздаблення чырвонымі палоскамі, з дзе-нідзе белымі ці цёмнымі. Ручнікам гэтага рэгіёна характэрныя шматкаляровасць і пляценне канцоў ручніка.

Для ручнікоў Панямоння таксама характэрна самабытнае мастацкае афармленне ручніка. Гэта добрае іх выкананне, разнастайны арнамент у вертыкальным становішчы, цікавасць малюнка, аздабленне ручніка плеценымі буйнымі карункамі. А вось ручнікі Паазер'я прываблiваюць вока найбольшай адметнасцю. Каларытнасць, перапляцення канцоў ручніка рэдкімі карункамі, традыцыйная вышыўка, разнастайны арнамент, узоры, малюнак, панаванне белага, чорнага, чырвонага колераў, раслінныя сюжэты. Вось што з'яўляецца адметным у ручніках гэтай тэрыторыі. Сваёй самабытнасцю і непаўторнасцю не саступаюць ім Падняпроўскія ручнікі, аздобленыя вельмі адметным малюнкам, арнаментам, карункамі, цікавым наборам колераў.

Аднак на мой погляд, бадай, самыя цікавыя ручнікі былі Усходнепалескія, з вельмі разнастайным арнаментам, багачэннем малюнкаў, шматколерным афармленнем тканіны, плеценымі канцамі. Гэта сапраўды вельмі цікава і арыгінальна.

Агледзеўшы ўсю выставу я накіраваўся да выхаду з прыемным пачуццём гонару за народнае майстэрства, адкрыўшы для сябе, у сваю чаргу, раней няведамы свет нацыянальнага беларускага ручніка.

***Карэцкі А.У.***
***група № 205***
***БУК***

# Дзівосы Беларусі

Бярэзінскі запаведнік які разлёгся на абшарах Менскай і Віцебскай абласцей, быў заснаваны 30 студзеня 1925 года. Тут на плошчы 76 тыс.га захаваліся разнастайныя сістэмы жывой і неарганічнай прыроды, якія не зведалі дзейнасць чалавека, 35 тыс.га запаведніка - цалкавіта некранутая зона.

Запаведнік быў створаны для аховы і развядзення каштоўных птушак і жывёлаў, асабліва баброў, якіх на момант стварэння заставалася тут адзіная на Беларусі калонія.

У 50-я Хрушчоўскія гады запаведнік быў скасаваны, бо палічылі, што ад яго ніякай карысці сацыялістычнай гаспадарцы няма. Але ў 60-я статут запаведніка быў адноўлены, бо, мабыць, кукурузу ў ягоных нетрах вырошчваць было нязручна. З 1978 году ён стаў біясферным запаведнікам.

У сівую даўніну тэрыторыя запаведніка падпала пад уздзеянне ледавікоў, і цяпер у ягоных межах знаходзіцца больш за 50 невялікіх забалочаных рэчак і ручаёў, перагароджаных бабровымі грэблямі.

Вельмі шмат азёраў, з якіх самыя вялікія Палік, Вольшыца, Плаўна. Усе азёры злучаныя с паміж сабою рэчкаю Сергуч. Возера Плаўна цікава тым, што ягоная паўночна-ўсходняя частка нясе сваю ваду ў Балтыйскае мора, а паўночна-заходняя — у Чорнае, і такім чынам рэчка Сергуч, што ўпадае ў гэтае возера, з'яўляецца прытокамі абодвух мораў.

Сярод звыклых хваёвых і бярозавых лясоў у Бярэзінскім запаведніку трапляюцца чарнальховыя, асінавыя, дубовыя, а на поўдні — унікальныя ясеневыя лясы. Лясы тут вельмі светлыя, сонечныя, вясёлыя, — нездарма іх тут называюць чырвоналессем. Асабліва прыгожы сасновы бор раніцаю, калі ўзыходзіць сонца, і ад дрэваў адкідваюцца цені, а лес напоўнены водарам смалы.

Напачатку стварэння ў запаведніку налічвалася ўсяго нешта 20 ласёў, 10 мядзведзяў, 3 дзікі і лічаныя адзінкі некаторых іншых жывёлаў. Зараз тут сотні гэтых жывёлаў, а ўсяго ў ім — 52 віды млекакормячых, 197 відаў птушак, больш за 34 віды рыбаў. Цікава, што тут сустракаюцца прадстаўнікі паўднёвых і паўночных зонаў.

З тундравых жыхароў тут жыве гарнастай і белая курапатка, з лясных — рысь, куніца, лось, а з стэпавых заяцрусак. Тут гняздуюцца рэдкія драпежныя птушкі: арол-беркут, малы падворлік, скапа, барадатая неясыць, чорны бусел і шэры журавель. Не так даўно сюды для рэакліматызацыі завезеныя зубры, з Белавежскай пушчы, а адсюль вывезена каля 1000 баброў для рассялення ў іншых мясцінах краіны. 30 відаў раслінаў і 9 відаў жы-вёлаў належаць да ліку занесеных у Чырвоную кнігу Беларусі. Зараз запаведнік з'яўляецца базаю, дзе вядуцца навуковыя даследванні, стажыруюцца айчынныя і замежныя спецыялісты. Тут распачатыя работы ў справе аднаўлення некалі знішчаных у нас лясных прыгажуноў: высакародных аленяў, дзікіх катоў ды іншых. Тут дзейнічае цудоўны музей прыроды, куды прыязджаюць шматлікія экскурсіі. Шаша з Менску ў Лепель перасякае Дамжэрацкае балота, і з акна аўтобуса можна бачыць амаль некранутыя чалавекам куткі дзівоснай беларускай прыроды.

Пра Бярэзінскі запаведнік гаварыць можна, шмат, але лепш туды насхаць і паглядзець на свае вочы, - тым больш, што ў запаведнік вядуць цудоўныя дарогі.

***Віктар Ягорчанка, г.Менск.***

## Аповесць пра словы

### Сякера, тапарышча

У № 10 (344) ад 18 сакавіка г.г. мы краналі слова "сякера", але тады гэта было зроблена бегла. Мы паказалі што слова ***castra (шастра)*** на санскрыце абазначае нож, кінжал, зброя. Слова ***sankara (санкара)*** абазначае ***разразаць, рассякаць. Сакера*** слова, якое да гэтага часу ўжываецца побач з ***сякерай*** вельмі блізка да ***санкары***. На тым мы тады спыніліся. Але сёння мы можам пайсці далей і, калі не паказаць увесь шлях сякеры ад санскрыта да беларускай мовы, то хаця б акрэсліць бліжэйшыя абсягі бытавання гэтага слова.

Слова ***сякера*** ў беларускай мове мае вялізарнае гняздо: ***секчы, пасечаны, засека, засек, прасека, сякач, пасечка, сячы, падсечка, рассекчы, сячкарня*** і г.д.. Яно ў нашай мове сваё і даўняе, але ёсць адзін элемент, які абавязвае звярнуць на сякеру больш пільную ўвагу. Гэта ***тапарышча***. Тронка да сякеры, ці ручка, ці дзяржак. Як ні развітое слова ***сякера***, але ***тапарышча*** нікуды не дзелася. І тады прыходзіць на памяць дзяцінства, у якім побач з сякерай заўсёды быў тапор і слова ***тапорнік*** (дровы нарыхтаваныя без пілы, адной сякерай), і ***тапорная работа*** (грубая работа). Тапор і сякера розніліся памерамі. Тапор быў грубейшы, і большы, і тупейшы. Сякера, сякерка — далікатнейшая і вастрэйшая. Быў яшчэ і калун, але ён ужо з іншага гнязда словаў. Але мы мусім пагадзіцца, што слова ***тапор*** калісь было не чужое беларускай мове. Высвятліць яго паходжанне пакуль пакінем на далей. Адзначым толькі, што малое гняздо словаў, адсутнасць асновы ў грэцкай, санскрыце і іншых мовах інда-арыйскай сям'і кажа пра запазычаны характар гэтага слова, а адсутнасць яго ў балгарскай мове і наогул збівае з тропу. Тым не менш мы маем ***тапарышча*** і пры ім ***сякеру***. Санскрыцкае ***санкара*** выводзіць на лацінскае ***(seke) секо - секчы, расякаць, на сектар, секстант, секцыю. Насякомае (insectum)*** ад дзеяслова ***insecto*** насякаю, што значыць ***надсечанае, надрэзанае*** і цалкам адпавядае выгляду суставаў і тулава насякомых.

Тут жа ў латыні мы знайходзім і ***securis — сякера.*** І ведаючы форму сякеры давайце пагадаем, што ад чаго паходзіць: ***сектар*** — ад таго, што яго высякаюць з круга ці ***сякера*** ад таго, што па форме яна рыхтык ***сектар***. Але маючы дзеяслоў ***seco*** пагодзімся, што спачатку была ***сякера***. З гэтага ж кораня і ***secreto*** — асобна, сам з сабою.

З гэтага ж кораня маем і ***secundus*** — наступны, другі. Пасля рассячэння чаго небудзь заставаўся першы і другі кавалак.

Цікава, што слова ***сякера,*** перайшоўшы ўва ўсе славянскія мовы хутчэй за ўсё праз латынь, не трапіла ў мовы балцкія. Сякера па летувіску ***kirvis.*** Летувісы маюць і слова ***kirvininkas — тапорнік***. Побач з тым яны маюць слова ***kirtis — высечэнне, удар*** і ад гэтага будуюць такія словы, як ***kirtejas — лесаруб, дрывасек, kirtikles — кірка, сякач, рубільнік, kirtimas — лесасека, прасека, высечка***, і г.д. Нічога агульнага з сякерай. Але адкінуўшы міжнародныя латылізмы: ***сектар, секцыя*** і г.д. у летувіскай мове мы знайходзім усё тое ж ***seka — паслядоўнасць, парадак, чарговасць. Sekantis — наступны, sekunde — секунда.***

Дарэчы пра ***секунду.*** Гэта слова ўзнікла ў прымяненні да меры часу ў выніку дзялення сутак спачатку на гадзіны, потым гадзіну падзялілі на хвіліны, потым трэба было знайсці наступную назву. Яе не сталі шукаць так і назвалі ***sekunde — наступная,*** але наступная ў сячэнні ў падзеле.

Як здарылася так, што лацінская ***securis*** прайшла міма германскіх моваў (там сякера — ***das Beil***) , міма балцкіх (летувісы лічаць сябе нашчадкамі рымлян) і атабарылася ў славянскіх? Адказаць цяжка.

І чаму туркі называюць сякеру ***balta (балта)*** і не маюць вакол яе гнязда словаў. Ці не дасталася яна ім ад балтаў.

Слова ***тапор*** аказалася выцесненым ***сякерай***. Засталося ***тапарышча.***

Якой была першапачатковай назва сякеры? ***Санкара?*** Над гэтым працаваць і працаваць.

***Станіслаў Суднік.***

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by

***Рэдакцыйная рада:***
Генадзь Бураўкін — старшыня, Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Запрудскі, Аляксей Пяткевіч, Аляксей Рагуля, Аляксей Саламонаў, Павел Сцяцко, Алег Трусаў, Эрнэст Ялугін.

***Аўтары нясуць поўную адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гродзенскага аблвыканкама.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 23. 11. 98 г.
Наклад 3000 асобнікаў. Замова № 2575.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 12 000 руб., 3 мес.- 36 000 руб.